





Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнага Савету
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.
VII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 11 (112) | 23 ліпеня 1931 г. | № 11 (112)



## ЗЬМЕСТ.



---



Зацьверджана Прэзыдыумам Дзяржпляну БССР 30 чэрвеня 1931 г.

## Пастанова Дзяржаўнай Плянавай Камісіі пры СНК БССР.

### 53. Палажэньне пра парадак зацьверджаньня форм вучотна-статыстычных работ у БССР.

(У разьвіцьцё пастановы СНК БССР за 13/VI-1931 г. пра арганізацыю вучотна-статыстычных работ).

I. Сэктар народна-гаспадарчага вучоту (СНГВ) Дзяржпляну БССР зацьвярджае сыстэму і формы вучоту і справаздачнасьці і інструмэнтары справаздачна-статыстычных работ і дадаткі да ўсесаюзных форм, якія праектуюцца ведамствамі, установамі арганізацыямі, і кааперацыйнымі цэнтрамі БССР, а таксама арганізацыямі (філіаламі) агульна-саюзнага значэньня, якія знаходзяцца на тэрыторыі БССР, калі апошнія праектуюць формы і інструмэнтары аперацыйна-статыстычных работ (альбо дадаткі да ўсесаюзных форм) рэспубліканскага альбо мясцовага значэньня.

*Увага.* У выпадку, калі сыстэма справаздачнасьці, прапанаваная агульна-саюзным цэнтрам сваім мясцовым арганізацыям, зацьверджана сэктарам народна-гаспадарчага вучоту Дзяржпляну СССР, гэтакая справаздачнасьць не падлягае разгляду Дзяржплянам БССР (за выключэньнем выпадкаў, якія спэцыяльна агавораны Дзяржплянам СССР).

II. Парадак разгляду і зацьверджаньня Дзяржплянам БССР вучотна-статыстычных работ устанаўляецца наступны:

а) Усе ведамствы і арганізацыі абавязаны распрацаваць для падпарадкаваных ім прадпрыемстваў гадавую справаздачнасьць за 1931 г. і ўсю справаздачнасьць (гадавую, квартальную, месячную, дэкадную і г. д.) на 1932 год.

б) Праекты гэтай справаздачнасьці павінны быць прадстаўлены для зацьверджаньня ў Дзяржплян БССР у наступныя тэрміны: гадавая справаздачнасьць за 1931 г.-не пазьней 1-га жніўня 1931 г. і ўся сыстэма справаздачнасьці на 1932 год (гадавая, квартальная, месячная, дэкадная і іншая)—не пазьней 15-га верасьня 1931 г.

в) Праект справаздачнасьці павінен складацца з наступных абавязковых частак:

1) тлумачальнай запіскі з фармулёўкай задач, якія падлягаюць вывучэньню на падставе распрацаванага праекту справаздачнасьці і асноўных тлумачэньняў па запаўненьню форм справаздачнасьці;

2) самога праекту справаздачнасьці (сыстэма справаздачнасьці);

3) схэмы і тэрмінаў распрацоўкі матарыялаў вучоту і справаздачнасьці;

4) праекту форм асноўных першапачатковых вучотных дакумэнтаў статыстычнай справаздачнасьці.

*Увага.* Праекты справаздачнасьці, якія не задавальняюць пералічаным запатрабаваньням, да разгладу і зацьверджаньня не прымаюцца.

г) Усякія наступныя зьмены і дапаўненьні раз зацьверджанай сыстэмы справаздачнасьці могуць рабіцца толькі з асобнага ў кожным паасобным выпадку дазволу Сэктару народна-гаспадарчага вучоту Дзяржпляну БССР, прычым парадак зацьверджаньня гэтых зьмен і дапаўненьняў устанаўліваецца такі-ж, як і для асноўнай сыстэмы справаздачнасьці (гл. п. „в“ гэтага падзелу.)

III. У далейшым да распрацоўкі і зацьверджаньня новай сыстэмы справаздачнасьці для ўсіх ведамстваў і арганізацый прадаўжае, як правіла, дзейнічаць існуючая справаздачнасьць. У выпадку, калі для ведамстваў паўстане неабходнасьць унясеньня ўжо ў бягучым годзе якіх-небудзь зьмен альбо дапаўненьняў у існуючую справаздачнасьць, устанаўліваецца такі-ж парадак разгляду і зацьверджаньня зьмяняемых і ўноў уводзімых форм, які прадугледжан у п. „в“ падзелу II гэтага палажэньня.

Увага. У паасобных выпадках зьмены і ўноў увадзімыя ў 1931 г. формы могуць разглядацца і зацьвярджацца без абавязковага прадстаўленьня тлумачальнай запіскі і схэмы распрацоўкі.

IV. Усе праекты сыстэм, форм і г. д. па вучоту і справаздачнасьці, якія распрацоўваюцца паасобнымі гаспадарчымі арганізацыямі, прадстаўляюцца на зацьверджаньне ў Дзяржплян БССР праз адпаведныя рэспубліканскія ведамствы, якія папярэдне разглядаюць, корэктуюць гэтыя праекты і накіроўваюць у Дзяржплян ад свайго імя, паказваючы працаўніка, які ўпаўнаважваецца на ўзгадненьне з Дзяржплянам данай сыстэмы альбо паасобнай формы. У выпадку прынцыповага разыходжаньня са сваімі гаспадарчымі арганізацыямі, ведамствы павінны паказаць гэтыя разыходжаньні ў сваім заключэньні, якое накіроўваецца ў Дзяржплян.

V. Сэктар народна-гаспадарчага вучоту Дзяржпляну БССР пры разгледжаньні прадстаўленых ведамствамі праектаў сыстэм, форм і г. д. па вучоту і справаздачнасьці прыцягвае ў выпадку неабходнасьці да разгляду ў Дзяржпляне БССР, апроч данага ведамства, таксама усе зацікаўленыя гаспадарчыя арганізацыі і ведамствы.

VI. Пры разглядзе і зацьверджаньні праектаў сыстэм і форм па вучоту таксама прыцягваюцца прадстаўнікі мэханізаваных распрацовак для разьвязваньня пытаньняў адносна найбольшай прыстасаванасьці форм вучотных дакумэнтаў у мэтах мэханізаванай распрацоўкі.

VII. Тэрмін для разгледжаньня і зацьверджаньня форм справаздачнасьці ў Дзяржпляне БССР устанаўліваецца:

а) для сыстэмы справаздачнасьці (гл. II, в, п. 3)—20-30 дзён.

б) для паасобных форм (гл. II, в, п. 4)—5-10 дзён.

VIII. Усе зацьверджаныя сектарам народна-гаспадарчага вучоту Дзяржпляну БССР формы ў канчатковай іх рэдакцыі візіруюцца ў 2-х экзэмплярах як сэктарам народна-гаспадарчага вучоту Дзяржпляну, таксама і зацікаўленымі ведамствамі. У выпадку разыходжаньня паміж Сэктарам народна-гаспадарчага вучоту і ведамствамі, альбо ў выпадку незацьверджаньня прадстаўленых форм, рашэньне Сэктару народна-гаспадарчага вучоту Дзяржпляну накіроўваецца ведамству, для якога яно зьяўляецца абавязковым.

Увага. У выпадку разыходжаньня паміж рэспубліканскімі ведамствамі з аднаго боку і Дзяржплянам БССР з другога—па патрабаваньню агульнасаюзнага ведамства пытаньне і дадаткі, якія ўключаюцца ў агульна-саюзныя формы, могуць быць пераглегледжаны Сэктарам народна-гаспадарчага вучоту Дзяржпляну СССР, рашэньне якога зьўляецца канчатковым.

Разыходжаньні паміж СНГВ Дзяржпляну БССР і неаб'яднанымі наркаматамі БССР, па патрабаваньню апошніх, могуць быць разгледжаны Прэзыдыумам Дзяржпляну БССР, рашэньне якога зьяўляецца канчатковым.

IX. На ўсіх зацьверджаных формах ставіцца штамп: „Зацьверджана Сэктарам народна-гаспадарчага вучоту Дзяржпляну БССР „.........“.........................193......г.“.

Такі надпіс аднаўляецца ў абавязковым парадку на ўсіх друкуемых блянках і формах. Зацьверджаныя формы вучоту і справаздачнасьці пасьля надрукаваньня іх у друкарні, альбо размножаньня іншым шляхам, адначасова з увядзеньнем іх у жыцьцё, накіроўваюцца ў 3-х экзэмплярах у Дзяржплян БССР, які зацьвердзіў гэтыя формы, дзе яны сыстэматызуюцца па ўстановах і па відах вучоту.

Старшыня Дзяржаўнай Плянавай Камісіі пры СНК БССР **С. Гольдберг.**

Сакратар ДПК пры СНК БССР **Валодзька.**

## Пастанова Народнага Камісарыяту Фанансаў БССР.

### 54. Пра вызваленьне ад адзінай дзяржаўнай пошліны органаў НК Працы на некаторых іскавых заявах.

На падставе арт. 8 Палажэньня пра адзіную дзяржаўную пошліну (З. З. СССР 1930 г., № 46, арт. 480) Народны Камісарыят Фінансаў БССР пастанаўляе вызваліць органы НК Працы БССР ад уплаты адзінай длярржаўнай пошліны па іскавых заявах аб спагнаньні кошту навучаньня на курсах органаў працы альбо „Устаноўкі“ з тых асоб, якія пасьля сканчэньня гэтых курсаў ухіляюцца ад работы па паказаньні азначаных органаў.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **М. Абрамсон.**

За Кіраўніка Сэктару Масавых Плацяжоў **Эйдлін.**

8 ліпеня 1931 г.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР і Сакратарыяту Цэнтральнага Савету Прафэсійных Саюзаў БССР.

### 55. Пра мерапрыемствы па палепшаньню абслугоўваньня вячэрніх і начных зьмен.

Падвышэньне колькасьці зьменнасьці ў прамысловасьці патрабуе самай сур'ёзнай увагі да арганізацыі вячэрніх і начных зьмен і стварэньня для іх нармальных умоў працы.

З тае прычыны, што вячэрнія і начныя зьмены зьяўляліся найбольш слабым вучасткам прадпрыемстваў, партыяй і урадам былі дадзены шэраг дырэктыў аб павялічэньні зьменнасьці і аб перабудове работы фабрык і заводаў тварам да начных зьмен. Аднак, НКПрацы БССР, на падставе праведзенага сумесна з ЦСПСБ, ЦКК—РСІ і рэдакцыяй газ. „Рабочий“ налету, канстатуе недапушчальна маруднае выкананьне гаспадарчымі і прафэсійнымі органамі асноўных дырэктыў партыі і ураду аб палепшаньні становішча вячэрніх і начных зьмен.

Выходзячы з гэтага НКПрацы БССР і ЦСПСБ пастанаўляюць:

1. Паставіць перад ВСНГ, НКСнабам і іншымі арганізацыямі пытаньне аб неабходнасьці правядзеньня наступных асноўных мерапрыемстваў для палепшаньня абслугоўваньня вячэрніх і начных зьмен:

а) стварэньне сталых зьмен, як самастойных гаспадарчых адзінак (зьмена-цэх), з прамфінплянамі, якія знаходзяцца на гаспадарчым разрахунку, кіраўнікамі зьмен і зьменнымі трыкутнікамі, што павінна зьявіцца асноўнай правільнай арганізацыяй працы начных зьмен;

б) выходзячы з таго, што правільная арганізацыя вытворчасьці магчыма толькі пры поўназьменнай рабоце прадпрыемстваў, неабходна узмацніць работу па падвышэньню каэфіцыенту зьменнасьці на фабрыках і заводах з малаколькаснымі вячэрнімі і начнымі зьменамі, абавязаць усе прадприемствы ў месячны тэрмін разглядзець па кожнаму прадпрыемству і паасобнаму вучастку (цэху, групе, варштату) магчымасьць павялічэньня зьменнасьці;

в) прадпрыемствы павінны быць забясьпечаны прапарцыянальна адміністрацыйнымі і інжынэрна-тэхнічнымі работнікамі па зьменах. Адначасова з гэтым работа фабрычна-заводзкай арганізацыі павінна быць перабудавана пад кутам погляду забясьпечаньня ўсіх зьмен прадстаўніцтвам заводзкага трыкутніка.

2. Абавязаць усе мясцовыя органы працы каранным чынам перабудаваць формы абслугоўваньня шматзьменнай вытворчасьці, устанавіць пэрыядычныя наведваньні другіх і трэціх зьмен з боку інспэктароў працы ня менш 1 разу ў пяцідзёнку. Разам з гэтым забясьпечыць, каб прадстаўнікі грамадзкай інспэктуры працы знаходзіліся абавязкова ў кожнай зьмене.

3. З тае прычыны, што чынныя часовыя правілы штучнага асьвятленьня прадпрыемстваў, якія выдадзены ў 1928 г., зьяўляюцца нездавальняючымі, абавязаць Інстытут Аховы Працы прыняць удзел у распрацоўцы новых форм штучнага асьвятленьня.

4. Інспэктарам працы зараз-жа паставіць пытаньне:

а) перад РВК і гарсаветамі аб устанаўленьні руху трамваяў і аўтобусаў у начны час у раёны тых прадпрыемстваў, якія працуюць у 2-3 зьмены;

б) перад праўленьнямі ЦРК спажывецкай капярацыі аб прыстасаваньні работы сталовак, буфэтаў, зачыненых рабочых капэратываў і ларкоў да працы начных зьмен;

в) перад мясцовымі органамі НК Аховы Здароўя аб палепшаньні мэдычнага абслугоўваньня начных зьмен праз устанаўленьне дзяжурстваў на мэдпунктах пры наяўнасьці ня менш 75 чал. у зьмене;

г) перад ВСНГ, НКСнабам, органамі НК Аховы здароўя і НК асьветы аб прыстасаваньні работы дзіцячых установ і ясьляў да зьменнай працы.

5. Адзначаючы зусім недапушчальныя зьявішчы ў большасьці прадпрыемстваў у справе аховы прадпрыемстваў у начны час, папярэдзіць асоб, адказных за працу ў начны час, аб арганізацыі належнай аховы прадпрыемстваў. Прасіць Галоўнае Кіраўніцтва Міліцыі аб дачы паказаньняў месцам аб правядзеньні пэрыядычнай праверкі становішча аховы прадпрыемстваў.

6. Даручыць інспэктарам працы прасачыць за выкананьнем гэтай пастановы і асоб, якія парушаюць яе, прыцягваць да строгай адказнасьці.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Ф. Пушчын.**

За Старшыню Цэнтральнага Савету Прафэсійных Саюзаў БССР **Каменштэйн.**

Заг. Сэктару Арганізацыі і Аздараўленьня умоў працы НКП БССР **З. Іофэ.**

28 мая 1931 г.
№ 21.

### 56. Пра забарону друкаваньня аб'яў аб патрэбнасьці ў спэцыялістых.

Практыка вярбоўкі спэцыялістаў шэрагам прадпрыемстваў і ўстаноў праз публікацыю аб'яў у друку аб патрэбнасьці спэцыялістых пры недахопе ў іх прыводзіць да зрыву работы па плянавым задавальненьні патрэбнасьці ў спэцыялістых і мерапрыемстваў, якія праводзяцца па барацьбе з цякучасьцю.

Выходзячы з гэтага, НК Працы БССР пастанаўляе:

1. Забараніць усім гаспадарчым і дзяржаўным прадпрыемствам і ўстановам публікацыю аб'яў аб патрэбнасьці ў спэцыялістых па ўсіх дэфіцытных спэцыяльнасьцях без асобнага дазволу мясцовых органаў працы.

2. Гарадзкім і раённым інспэктарам працы выдаваць дазволы на публікацыю паказаных аб'яў аб патрэбнасьці ў спэцыялістых толькі ў выключных выпадках, улічваючы пры гэтым;

а) ступень ударнасьці і важнасьці таго ці іншага вучастку работы або прадпрыемства, для якога мяркуецца вярбоўка спэцыялістаў;

б) адлегласьць і малую забясьпечанасьць спэцыялістымі тых раёнаў, для якіх патрабуюцца спэцыялісты;

в) магчымасьць задавальненьня патрэбнасьці ў спэцыялістых праз кіраўніцтва кадраў шляхам унутры-ведамсьцьвеннага перамяшчэньня, скарыстаньня працуючых не па спэцыяльнасьці і плянавага разьмеркаваньня спэцыялістаў.

3. Забараніць публікацыю аб'яў саміх спэцыялістаў аб прадастаўленьні ім работы, ці аб пераходзе на іншую работу, за выключэнь-

нем выпадкаў, калі спэцыяліст жадае перайсьці на работу з апарату кіраўніцтва на вытворчасьць, ці з гарадзкіх цэнтраў на пэрыфэрыю.

4. Нагляд за выкананьнем гэтае пастановы ўскладаецца на мясцовыя органы працы.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Ф. Пушчын.**

Нам. Загадчыка Сэктару Заб.
Народн. Гасп. Кадрамі **Сакольчык.**

17 чэрвеня 1931 г.
№ 24.

### 57. Пра парадак скарыстаньня і аплаты работнікаў ліквідуемых раёнаў.

У сувязі з пастановай ЦВК і СНК БССР за 8 ліпеня 1931 г. „Аб частковым перараёнаваньні БССР“ („Савецкая Беларусь“ за 9/VII-1931 г., № 155) НК Працы БССР пастанаўляе:

1. Забараніць усім цэнтральным і мясцовым прадпрыемствам і ўстановам перавод работнікаў ліквідуемых раёнаў для работы ў цэнтральныя ўстановы ці іншыя раёны, не ўзбуйняемыя паводле вышэйпаказанай пастановы ЦВК і СНК БССР.

Адступленьне ад гэтага дапушчаецца толькі з дазволу ліквідкома адпаведнага раёну, а ў адносінах да спэцыялістаў—акрамя таго і па ўзгадненьні з НК Працы БССР.

2. Устанавіць наступны парадак аплаты працы і выдаткаў, зьвязаных з пераездам у іншыя раёны работнікаў:

а) калі работнік ліквідуемага раёну пераводзіцца для работы ў раённы цэнтр узбуйняемага раёну ці ў іншую мясцовасьць (акрамя цэнтральных устаноў), яму выплачваюцца выдаткі па пераезду самаго работніка і членаў яго сям'і (пры фактычным пераезьдзе з ім), а таксама правозу хатняй маемасьці ў разьмеры фактычнай каштоўнасьці і, акрамя таго, адначасовая дапамога ў разьмеры 2-х тыднёвага заработку.

Увага. У асобных выпадках у залежнасьці ад адлегласьці, кваліфікацыі работніка, яго сямейнага становішча і інш. разьмер адначасовай дапамогі, па згодзе старон, можа быць даведзены да месячнага заработку.

б) работнікам, якія пераводзяцца для работы ў цэнтральныя ўстановы (з захаваньнем п. 1 гэтай пастановы) выплачваюцца фактычныя выдаткі па пераезду і правозу хатняй маёмасьці;

в) аплата працы работнікаў, якія пакінуты на рабоце ва ўзбуйняемых раёнах, робіцца па стаўках, якія ўстаноўлены для адпаведных пасад у парадку дзяржнармаваньня зарплаты. Калі-ж гэтыя стаўкі будуць ніжэй той зарплаты, якую работнік атрымліваў да перараёнаваньня, дык за ім захоўваецца ранейшы разьмер зарплаты на тэрмін да 1-га студзеня 1932 г.

Гэта не пашыраецца на работнікаў, якія пераведзены на работу ў цэнтральныя ўстановы;

г) работнікі ліквідуемых раёнаў, якія ліквідкомамі ня будуць разьмеркаваны на работу, пры звальненьні маюць права на выхадную дапамогу незалежна ад папярэджаньня.

3. Працяжнасьць работы, якая дае права на чарговы водпуск, не прыпыняецца, калі работнік застаўся на рабоце ва ўзбуйняемым раёне, незалежна ад таго, ў якую ўстанову пераведзены работнік (з гаспадарчай у савецкую ці наадварот), за выключэньнем тых выпадкаў, калі работнік па ўласнаму жаданьню атрымаў ад ліквідуемай установы адпаведную кампэнсацыю.

4. На работнікаў ліквідуемых раёнаў, пераведзеных на работу ва ўзбуйняемыя раёны і членаў іх сем'яў, пашыраюцца ільготы, якія ўстаноўлены п. п. 4 і 5 пастановы СНК СССР за 18/VI-1931 г. „Пра льготы для работнікаў, пераваджімых па распараджэньню органаў працы" (газ. „Известия ЦИК СССР и ВЦИК" за 22|VI-1931 г.).*

Народны Камісар Працы БССР **А. Баскін**.

10 ліпеня 1931 г.
№ 32.

## 58. Пра зварот на работу па спэцыяльнасьці асоб, скончыўшых палітасьветныя тэхнікумы і спэцыяльныя курсы па палітасьветрабоце.

Для выкананьня пастановы СНК БССР за 12 мая 1931 г. (З. З. БССР № 18, арт. 154) НК Працы БССР пастанаўляе:

1. Зьвярнуць на работу ў палітасьветныя ўстановы ўсіх асоб, якія скончылі палітыка-асьветныя тэхнікумы і спэцыяльныя цэнтральныя, акруговыя, раённыя і гарадзкія курсы палітасьветработнікаў у 1930 г. і якія знаходзяцца на працы ў іншых гаспадарчых, савецкіх і грамадзкіх установах і арганізацыях.

Увага. Звароту не падлягаюць тыя з палітасьветных работнікаў, якія ў сучасны момант знаходзяцца на выбарных адказных пасадах.

2. Абавязаць усіх кіраўнікоў гаспадарчых, савецкіх, прафэсійных, каперацыйных і грамадзкіх устаноў і арганізацый да 30/VII-1931 г. прадставіць раённым і гарадзкім інспэктарам працы імянныя сьпісы асоб, што падлягаюць звароту ў палітасьветныя ўстановы з паказаньнем, якую скончыў навучальную ўстанову і займаемую пасаду.

3. Прапанаваць усім гаррайінспэктарам працы не пазьней 5 жніўня 1931 г. сумесна з райінспэктарам Нарасьветы і прадстаўніком Саюзу Працасьветы разглядзець усе сьпісы і намеціць пэрсанальна асоб, якія падлягаюць звароту ў палітасьветныя ўстановы.

4. Адкамандыраваньне работнікаў робіцца па кожнаму выпадку паасобку па запатрабаваньню райінспэктара палітасьветы, які і прызначае пераваджімага работніка на палітасьветную работу.

---

*) П. 4 гэтай пастановы узгоднен з Галоўным Кіраўніцтвам Камунальнае Гаспадаркі БССР пры СНК БССР

Пасьля атрыманьня паведамленьня ад райінспэктара палітасьветы, адміністрацыя ўстановы, у якой працуе палітасьветработнік, павінна аслабаніць яго ад займаемай пасады на працягу 5 дзён.

5. Работнікі, якія зьвернуты на работу ў палітасьветную ўстанову паводле гэтай пастановы, карыстаюцца льготамі, прадугледжанымі пастановай СНК СССР за 18/VI-1931 г. „Пра льготы для работнікаў, перавадзімых па распараджэньню органаў працы“ („Изв. ЦИК СССР и ВЦИК“ за 22 чэрвеня 1931 г.).

6. Кіраўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў за несваечасовае прадстаўленьне сьпісаў і неадкамандыраваньне палітасьветработнікаў, а таксама работнікі, якія ўхіляюцца ад пераходу на работу ў палітасьветныя ўстановы, прыцягваюцца да адказнасьці.

Народны Камісар Працы БССР **Баскін.**

23 ліпеня 1931 г.
№ 33.

Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Друк. Кір. Спраў СНК і ЭС БССР. Галоўлітбел № 293. Зак. № 411—5300 экз.